# НІВА

V ГОД ВЫДАННЯ № 3 (203)

17 СТУДЗЕНЬ 1960 г.

БЕЛАСТОК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Цана 60 гр. Cena 60 gr.


МІХАСЬ ЧАРОТ

## НЕЎМІРУЧАЕ ІМЯ

(Урывак з паэмы «Ленін»)

Горад...
Заплаканы горад...
Сёння весткаю
Вёску не радуе...
У бязмежныя далі - прасторы:
«Ленін памёр» —
Нясе радыё.
Лясы, балоты і поле
Заплакалі марш хаўтурны...
— Няма...
Няма яго болей.
Плача народ пануры...
Плача і вёска плача...
Снег нібы ў жоўтым пяску...
А Мікіта сон бачыць,
Што едзе да сына — ў Маскву.
Толькі прыход суседа
Не даў больш аб слодычы сніць...
— Мікіта... ты, пэўна, не ведаў...
Ленін... сказаў... доўга жыць...
І глядзяць
На партрэт здалёку...
Мікіта ў слёзы ўміг...
А Ленін зажмураным вокам
Жывым пазірае на іх...
— Хай памёр...
Але ў сэрцы нашу я
Яго імя — ён будзе жывым...
Капля слёз на зрэбнай кашулі
Здавалася капляй крыві.
Мікіта з жалобаю ў сэрцы
Не звадзіў вачэй з партрэта...
— Ці ж можа Ленін памерці?
Не веру,
Не веру я ў гэта...

# НАСУСТРАЧ III-му З'ЕЗДУ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

УЛАДЗІМІР СТАНКЕВІЧ старшыня ГП БГКТ

26-га лютага 1956 г. адбыўся ў Беластоку арганізацыйны з'езд беларускага актыву, на якім было створана Беларускае грамадска - культурнае таварыства ў Польшчы. 4-га сакавіка 1956 г. выйшаў І-шы нумар беларускага часопіса «Ніва» — органа Галоўнага праўлення БГКТ. Ад пачатку дзейнасці Таварыства і яго часопіса мінула амаль ужо чатыры гады. «Ніва» ўжо святкавала свой 200-ты нумар, а Беларускае грамадска - культурнае таварыства з сур'ёзнымі дасягненнямі рыхтуецца да III-га З'езду. II-гі З'езд адбыўся 30-га сакавіка 1958 г. III-ці З'езд адбудзецца ў палове 1960 года.

**З чым мы ідзем на спатканне III-га З'езду Таварыства і з чым мы яго сустрэнем?**

**Як накіраваць далейшае развіццё дзейнасці Таварыства, каб праца была мэтазгоднай па сваёй форме і зместу і каб дала як найлепшыя вынікі?**

**Якія выпрацаваць новыя арганізацыйныя формы і метады працы, каб Праўленні аддзелаў і гурткоў нашага Таварыства маглі лепей рэалізаваць настаўленыя перад імі заданні?**

**Як ліквідаваць да рэшты беларускую і польскую непісьменнасць — гэтую найвялікшую перашкоду ўсіх пачынанняў культурнай дзейнасці ва ўсіх галінах жыцця беларускай вёскі?**

**Як накіраваць шырока разгорнутай дзейнасцю Таварыства, каб забяспечыць сацыялістычнасць зместу працы ад спроб нацыяналістычных уплываў?**

Вось гэтыя і шмат другіх пытанняў і праблем павінны зацікавіць наш беларускі актыў у перадз'ездавы перыяд нашага Таварыства. Наша «Ніва» аддасць свае старонкі як найшырэйшай перадз'ездаўскай дыскусіі ўсім і на ўсякія тэмы. Калі мы ўсе падумаем аб розных хвалюючых нас справах і праблемах і супольна іх абмяркуем, дык напэўна выдатна дапаможам нашаму III-му З'езду выпрацаваць такія пастановы, якія будуць пуцяводным шляхам далейшага развіцця дзейнасці нашага Таварыства ў рэалізацыі стаячых перад ім заданняў.

Заданні стаяць перад БГКТ вялікія, але і рэалізаваць іх ёсць каму. Беларускі актыў сёння не толькі шматлікі, але і на высокім палітычным і культурным узроўні. Праз 15-ць год жыцця ў Польскай Народнай Рэспубліцы тысячы беларускіх

(Працяг на стар. 2)



17. I. 1960



17. I. 1945

ВАРШАВА

# ПЯНЬКОЎСКІЯ НАВІНЫ

На вуліцы вёскі сустракаю пажылую прысадзістую жанчыну і пытаю, дзе тут жыве старшыня аддзела Беларускага таварыства. Яна паказала мне рукою на нявовую ўжо хату, памаляваную запнай, і сказала:

— Вось тут жыве старшыня нашай вёскі.

— Чаму ж старшыня вёскі? — пытаю са здзіўлення.

— Бо Янка Азябла не толькі старшыня беларускага таварыства, але і старшыня сельскагаспадарчага гуртка ў Пяньках. Ён таксама кіруе гуртком мастацкай самадзейнасці, — прыбавіла.

(Працяг на стар. 4)

 

# ЗМВ — важак вясковай моладзі

Вясковая моладзь Сямяціцкага павета ўсё больш горнецца ў Саюз Сялянскай моладзі. Гэтая маладзёжная арганізацыя стаецца сапраўды неабходнай у жыцці вясковай моладзі, здабывае яе давер і пашану. Зараз на тэрыторыі павета існуюць 63 гурткі ЗМВ, якія аб'ядноўваюць 1146 вясковых дзяўчат і хлопцаў. Некаторыя гурткі ЗМВ, дзякуючы добра запланаванай і актыўнай працы, сталіся цэнтрам культурнага і гаспадарчага жыцця вёскі. Вось, напрыклад, гурток ЗМВ у Наройках, старшынёй якога з'яўляецца Яўген Паўлючук. Гурток аб'ядноўвае 46 асоб з вясковай моладзі. Наладжана тут асветна - палітычная адукацыя, удзельнікамі якой з'яўляюцца ўсе члены ЗМВ. Члены гуртка ЗМВ у Наройках — гэта ініцыятары розных грамадскіх чынаў. Аднойчы на сходзе яны пастанавілі перабудаваць дарогу ў вёску. Да іх далучыліся амаль усе жыхары вёскі. Цяпер у вёску вядзе новая дарога. А члены гуртка грамадскім чынам прыступілі да рамонту вясковай святліцы. Ужо даўжэйшы час пры гуртку ЗМВ існуе курс сельскагаспадарчай адукацыі. Здабытыя сельскагаспадарчыя веды моладзь прымяняе ў практыцы. На пачатку мінулага года дзяўчаты, удзельніцы сельгаспадрыхтоўкі, арганізавалі гадоўлю гусей. Гэта вельмі карысная і даходная справа. У гэтым годзе ўдзельнікі сельгаспадрыхтоўкі атрымаюць з ПФЗ участак зямлі, на якім будуць гаспадарыць калектыўна.

Моладзь з Наройкаў спадзяецца, што выдзелены ўчастак зямлі станецца для іх школай калектыўнай працы ўвогуле. А гэта вельмі важна. Бо немагчыма спадзявацца ў нас на хуткае развіццё калектывізацыі, калі моладзь не будзе разумець яе карысці.

У Сямяціцкім павеце ёсць шмат гурткоў ЗМВ, якія сталіся ў вёсках перадавой сілай ў развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці. Аб іх шмат гаварылася на II-гім злёце маладых земляробаў, які адбыўся восенню мінулага года ў Сямяцічах. На злёт прыехала 200 маладых дзяўчат і хлопцаў. Усе яны сцвярджалі, што ў павеце штораз больш моладзі ўдзельнічае ў конкурсах па жывёлагадоўлі, высокіх ураджаяў і іншых, якія арганізуе ЗМВ супольна з ПЗКіОР. У гэтых конкурсах моладзь атрымоўвае сапраўды вартыя ўвагі вынікі. Напрыклад, Пятро Татарчук з калёніі Гарашэва прыняў удзел у конкурсе па жывёлагадоўлі і выгадаваў 5-ці месячную свінаматку вагой у 120 кілаграмаў. Пятро Татарчук вельмі ахвотна падзяліўся метадамі сваёй працы з другімі маладымі жывёлаводамі. Несумненна, пры наступным падліку вынікаў конкурса будзе больш асоб, якія атрымаюць такія добрыя і карысныя вынікі.

Метады і формы, якімі карыстаецца ў сваёй штодзённай дзейнасці ЗМВ на тэрыторыі Сямяціцкага павета, вельмі простыя, але адначасова і вельмі жыццёвыя. Вясковая моладзь у дзейнасці ЗМВ бачыць канкрэтную карысць і таму ўсё больш маладых дзяўчат і хлопцаў горнецца да арганізацыі.

Не малыя дасягненні мае ЗМВ у Сямяціцкім павеце і ў галіне палітычнай дзейнасці. Гэта сцвердзіла, зрэшты, павятовая канферэнцыя ПАРП, якая адбылася ў Сямяцічах у канцы мінулага года. Усё больш гурткоў ЗМВ уводзіць у сябе так званыя асветна-палітычныя курсы, якія стаюцца школай палітычнага выхавання вясковай моладзі. Найлепшым доказам добрага палітычнага выхавання быў факт, што перад павятовай канферэнцыяй ПАРП, арганізацыя ЗМВ пераказала ў рады кандыдатаў партыі 9 сваіх членаў. Партыйная канферэнцыя, станоўча ацэньваючы дзейнасць ЗМВ на тэрыторыі павета, абавязала партыйных актывістаў да яшчэ большага супрацоўніцтва з маладзёжнай арганізацыяй, да пастаяннай дапамогі ў працы маладзёжных актывістаў. Несумненна, гэта дапаможа арганізацыі ЗМВ мець яшчэ большы ўплыў на вясковую моладзь Сямяціцкага павета і стацца яе сапраўдным важаком у перабудове вёскі.

(вб)



Калона спартыўнага таварыства «Буравеснік» на адкрыцці II Усебеларускай спартакіяды.

# 12 месяцаў у беларускім спорце

У навагоднім нумары орган Савета саюза спартыўных таварыстваў і арганізацый БССР «Фізкультурнік Беларусі» падсумаваў 1959 год у беларускім спорце.

Каб пазнаёміць нашых чытачоў з дасягненнямі беларускіх спартсменаў, змяшчаем ніжэй вытрымкі з «Ф. Б.».

### СТУДЗЕНЬ

На рынгу беларускай сталіцы ў матчы з баксёрамі Варшавы сустрэліся байцы Мінска. Мінчане атрымалі перамогу з лікам 12:8.

### ЛЮТЫ

Апублікавана пастанова ЦК КП Беларусі і Савета Міністраў БССР «Аб кіраўніцтве фізкультурай і спортам у БССР», якая ў корані змяніла формы і змест масавай фізкультурнай работы.

Уведзены памятны значок «Удзельнік зборнай каманды БССР».

Рудольф Булыгін у закрытым памяшканні зрабіў рэкордны скачок у вышыню — 2 м 02 см.

### САКАВІК

У Венгрыі беларускія барцы класічнага стылю перамаглі ў двух матчах з аднолькавым лікам—7:1.

Ватэрпалісты БССР заваявалі першынство ў турніры каманд пяці рэспублік (Беларусь, Літва, Латвія, Эстонія, Малдавія).



**Чэмпіён свету і СССР па класічнай барацьбе Алег Караваеў (справа), экс-чэмпіён Еўропы і рэкардсмен СССР штангіст Е. Новікаў (у цэнтры), неаднакратны чэмпіён БССР і экс-чэмпіён СССР па вольнай барацьбе Ігар Караваеў.**

### КРАСАВІК

Матч баксёраў БССР і УССР у Кіеве. Лік—15:15.

### МАЙ

Міхаіл Тур мятнуў кап'ё на 74 м. 35 см.

Уладзімір Булатаў у Нальчыку ўстанавіў рэкорд Еўропы ў скачках з шастом — 4 м 62 см.

Кіра Зварыкіна ў балгарскім горадзе Плоўдзіве выйшла пераможцай у турніры прэтэндэнтак на матч з чэмпіёнкай свету па шахматам.

Матч у адказ па боксу УССР — БССР у Мінску. Зноў нічыя.

У Таліне беларускія гімнасты занялі першае месца ў традыцыйным матчы каманд трох рэспублік. (Арменія, Эстонія, Беларусь).

### ЧЭРВЕНЬ

У польскіх гарадах Любліне і Жэшуве беларускія штангісты атрымалі перамогі над цяжкаатлетамі Польшчы (4:3 і 5:2), якія занялі ў канцы года другое месца на першынстве свету.

Арнольд Чарнушэвіч заняў другое месца ў міжнародным турніры шпажыстаў у ФРГ.

Матч фехтавальшчыкаў ГДР, Беларусі і Літвы ў Мінску. Першае месца заваявалі беларусы.

Міжнародны матч па боксу ў Мінску БССР — Венгрыя. Перамаглі беларусы — 6:4.

### ЛІПЕНЬ

Фінал другой Усебеларускай спартакіяды. 3 500 удзельнікаў. 17 новых рэкордаў.

Уладзімір Булатаў заваяваў залаты медаль у міжнародных спаборніцтвах у Маскве.

Таццяна Пятрэнка на чэмпіянаце свету па фехтаванню ў Будапешце заваявала трэцяе месца.

Уладзімір Булатаў на матчы СССР — ЗША ў Філадэльфіі устанавіў новы рэкорд Еўропы і СССР у скачках з шастом — 4 м. 64 см.

### ЖНІВЕНЬ

Фінал другой Спартакіяды народаў СССР. Каманда БССР заняла шостае месца. Заваявала 49 медаляў, з іх 11 залатых. Пабіта 15 рэкордаў БССР. Чэмпіёнамі Спартакіяды сталі Эдуард Ярош, Георгі Валынскі (двойчы), Алег Караваеў, Валянцін Наумаў, Сяргей Макаранка, Леанід Гейштар, Уладзімір Батвіннік, Арнольд Чарнушэвіч, Марыя Іткіна, Юры



Сустрэча баксёраў Абакумоўскага і Хургеля

Рыбянец заваяваў залаты медаль у юнацкім першынстве шпажыстаў. Вячэслаў Русаловіч заняў 4-е месца ва ўсесаюзнай многадзённай велагонцы. Аляксандра Жалабковіч мятнула дыск на 52 м 09 см.

На матчы лёгкаатлетаў СССР — ФРГ у Маскве Марыя Іткіна, Уладзімір Булатаў і Уладзімір Гараеў заваявалі першыя месцы.

### ВЕРАСЕНЬ

На матчы лёгкаатлетаў СССР — Вялікабрытанія ў Маскве Марыя Іткіна, Уладзімір Булатаў і Уладзімір Гараеў заваявалі першыя месцы. Уладзімір Гараеў ў трайным скачку паказаў 16 м 15 см.

Марыя Іткіна ўстанавіла ў Краснадары два сусветных рэкорды: у бегу на 400 м (53,4) і ў бегу на 440 ярдаў. На гэтых жа спаборніцтвах Уладзімір Гараеў дабіўся ў трайным скачку — 16 м. 51 см.

Гіві Гагаберыдзе скокнуў у вышыню на 2 м 04,5 см.

### КАСТРЫЧНІК

Арнольд Чарнушэвіч заваяваў першае месца па шпазе на розыгрышы кубкаў СССР па фехтаванню ў Ерэване.

Аляксей Суэцін падзяліў з гросмайстрам Барысам Спаскім першае месца ў талінскім паўфінале чэмпіяната краіны па шахматам і заваяваў права ўдзельнічаць у фінале.

### ЛІСТАПАД

Лізавета Ермалаева стала чэмпіёнкай СССР у кросе на 2000 м.

Эдуард Ярош устанавіў у Курску на матчы абаронных таварыстваў СССР і ГДР сусветны рэкорд у стральбе, лежачы, з малакалібернай вінтоўкі, выбіўшы 397 ачкоў.

### СНЕЖАНЬ

Польскія барцы вольнага стылю прайгралі беларусам: у Мінску з лікам 1,5:6,5 і ў Брэсце — з лікам 2:6.

На матчы мацнейшых барцоў краіны класічнага стылю ў Маскве Алег Караваеў выйшаў пераможцам. Сяргей Залускі ўнічыю закончыў схватку з чэмпіёнам свету Іванам Богданам.

У Маскве пачаўся матч на званне чэмпіёнкі свету па шахматах. У чэмпіёнкі свету Лізаветы Быкавай карону аспрэчвае мінчанка Кіра Зварыкіна.

Эдуард Матусевіч у Кіраве на матчы канькабежцаў Омска, Куйбышава, Пермі, Кірава, Мінска і Маскоўскай вобласці заваяваў першае месца, перавысіўшы 5 рэкордаў БССР.



 

ШТО КРАЙ, ТО АБЫЧАЙ.

# СТАКГОЛЬМ -СТАЛІЦА ШВЕЦЫІ

**У часопісе «Dookoła świata» была змешчана цікавая карэспандэнцыя са Стакгольма Генрыка Гораша, цікавая перш за ўсё па сваёй форме. Аўтар праз акно свайго пенсіяната назірае жыццё жыхароў суседняга дома. І перад вачыма паўстае вобраз звычаяў, нораваў і характараў шведаў.**

### У ШВЕДСКАЙ СЯМ'І

На першым паверсе жыве пан Андэрсаў з жонкай і 14-гадовай дачкой. Устаюць яны ў 7 гадзін раніцы. Потым скромнае снеданне. Кубачак кавы і кусочак хлеба. Пан Андэрсаў перад восьмай ідзе да працы. Потым дачка ідзе ў школу. Праўда, гэтае апошняе не зусім



Жыллёвыя дамы ў Стакгольме

пэўнае. Бо падрастаючая моладзь у Швецыі, а найменш значная яе частка, часта бунтуецца. Бацькі ніколі не ведаюць, што робяць іх дочкі па-за домам. Гэты бунт — то нейкі пратэст супраць прынятых сістэм, норм, звычаяў. Найбольш дэмаралізаваная частка моладзі запісваецца да групы так званых выкрадальнікаў самаходаў. Маладыя хлопцы і дзяўчаты, якіх лёгка пазнаць па куртках са скуры паўночнага аленя, пачынаюць сваю дзейнасць увечары. Дзяўчаты, якія выбраліся нібы ў кіно, шпацыруюць па адной з галоўных вуліц. Хлопцы чакаюць у самаходах. Праводзяць узаемныя назіранні. Потым кароткія размовы і выезд за горад. Па некалькі днях паліцыя знаходзіць пакінуты самаход, якога дарэмна шукаў сапраўдны гаспадар. Ды вернемся да сям'і Андэрсаў. Пані Андэрсаў пачынае прыбіраць апусцеўшую кватэру. Робіць гэта амаль цэлы дзень. На працягу тыдня сцірала пыл і прыбірала аж 25 разоў. Да гэтага дадаецца гатаванне ежы, пранне, шыццё.

Жанчына ў Швецыі, дакладней, хатняя гаспадыня, мае ўсё ў сваім распараджэнні. Кухня абсталявана так, што час працы ў ёй скарачаецца ў тысячу разоў. Аднак шведская гаспадыня працуе больш, чым нашыя. І гэта не толькі справа дакладнасці, замілавання да парадку і чысціні шведаў. Гэта таксама спосаб пазбягаць задумы, разважанняў над прызначэннем жыцця жанчыны, замкнутай у кругу хатніх спраў і культу мужа.

Каля першай гадзіны вяртаецца дачка. Абедзве моўчкі ядуць люнш (нешта накшталт падабедка — абед пазней). Бацька, як тысячы яму падобных ураднікаў і работнікаў — есць у бары. На гэты раз зноў некалькі лустаў хлеба (канапак) і кава. У Швецыі ашчаджаецца перш за ўсё на ежы.

У шэсць гадзін вечара прыходзіць пан Андэрсаў.

У пярэдняй жонка здымае яму плашч і мяняе боты на фільцовыя хатнія туфлі. Стол ужо падрыхтаваны. Сям'я сядае за стол.

У гэты ж час у цэлым доме, і ва ўсёй Швецыі, ядуць абед. Пунктуальнасць, з якой адбываецца гэтая сямейная цырымонія, проста здзіўляючая. Варта тут дадаць, што адным з галоўных злачынстваў у гэтай краіне лічыцца непунктуальнасць.

Пасля абеда пан Андэрсаў чытае газету, дачка падае запаленую сігару. І гэтак штодзень.

### ЖАНЧЫНА І ДЗІЦЯ

Побач, на тым жа паверсе, жыве адзінокая жанчына з 5-гадовай дачкой. Цэлымі днямі яе няма ў хаце. Дзіця бывае ў маткі раз на тры дні.

Незамужняя жанчына з дзіцём нікога ў Швецыі не здзіўляе, не выклікае супраціўлення, пратэстаў. Наадварот, шэраг устаноў і арганізацый апякуецца дзіцём і маткай.

У сувязі з малым натуральным прыростам дзеці маюць шмат прывілегій і правоў.

Маці ездзіць да працы веласіпедам. Веласіпед у Швецыі — гэта сродак транспарта ўжо крыху ўстарэлы. Яны часта пакідаюцца проста на вуліцы. Па некалькіх днях паліцыя збірае такія пакінутыя веласіпеды і прадае іх па вельмі нізкіх цэнах.

### ПАДАТАК ЦІ СУПРУЖАСТВА

На другім паверсе жывуць бяздзетныя муж з жонкай.

— Але мы толькі нібы муж і жонка, — тлумачыць мужчына. — Так сапраўды, нашае сужыццё мае характар пробы.

У чым тут справа. Трэба ведаць, што ў Швецыі замужняй жанчыне працаваць не аплачваецца. Каб не плаціць высокага падатку, які адлічваецца з агульнай сумы заробкаў абодвух супругаў, шведы робяць фікцыйны развод. Ды бывае і наадварот — зусім не рэгіструецца сужыццё двух людзей. Паўстае гэтак званы сяброўскі шлюб. А гэта дае магчымасць хутчэй узбагацець. А ў Швецыі ўзбагацець — значыць купіць аўтамашыну і мець кватэру ў новым жылым квартале.

А што потым?

— Пакуль сплачу аўтамашыну, а потым дом, пайду ўжо на пенсію, буду старым, — пачуеце ў адказ.

Дзіўна, праўда. Ці ж бы сапраўды людзі тут паверылі каляровым рэкламам, якія аб'яўляюць, што сваё шчасце знойдзеш за рулём аўтамашыны.

### АДЗІНОЦТВА

На апошнім паверсе жыве адзінокі малады чалавек. Кожную раніцу і вечар рытмічнаківае галавой у такт джаза.

Аднойчы вечарам давялося сустрэць яго ў самаабслуговым бары. Сядзеў з нейкай маладой дзяўчынай. Ён піў каву, яна — апельсінавы сок.

З'елі па адным піражным. Гэта была іх вячэра. Сядзелі моўчкі. Прыглядаліся да другіх, падобных да сябе. Дзяўчына жыве на другім канцы горада. Заўтра сустрэнуцца... і можа пойдуць у кіно. У Стакгольме няма начнога жыцця. Зараз маладыя разыйдуцца. Ён вернецца да сваёй адзіноты, нуды. Такая бяссэнсавасць павінна быць цяжкай. Таму ў Швецыі многа псіхічна хворых, выпадкаў наркаманіі і самагубстваў.



Ярмарка ў Стакгольме

# ТОЛЬКІ ДЛЯ жанчын

Для выгады жанчын ў Маскве працуюць так званыя хатнія кухні, у якіх кожная гаспадыня можа купіць гатовы абед. Абеды ў такіх кухнях танныя, смачныя і пажыўныя, падрыхтаваныя вопытнымі кухарамі.

Кухня прымае заяўкі на дастаўку абедаў да дому.

Калі хто запрасіў гасцей на ўрадзіны, а гаспадыня не мае часу падрыхтаваць гасціну, што ж. няма клопату. Заказвае ў хатняй кухні і на патрэбны дзень мае ўсё, што трэба, свежым і апетытным. Калі мы будзем мець такія выгады?



Самаходы «Рухомыя хатнія кухні» дастаўляюць у час смачную і здаровую ежу.

# ПАРАДЫ ЎРАЧА

### ПЕРШАЯ ДАПАМОГА ДЗІЦЯЦІ

Калі дзіцё ўдарылася, пакладзіце на балючае месца лёд або змочаную ў халоднай вадзе чыстую белую тканіну. Калі дзіцё параніла руку ці нагу, змажце краі раны або драпіну ёдам. Затым пакладзіце на крывацечнае месца складзены ў некалькі столак стэрыльны бінт ці адпрасаваны гарачым прасам кавалак чыстай белай тканіны, а на яго — слой ваты. Бінтаваць трэба не вельмі туга.

Што рабіць, калі дзіцё незнарок аблілося гарачым малаком, супам, чаем? Распраніце яго, захініце ў чыстую адпрасаваную прасціну і ў коўдру і дастаўце ў бальніцу ці амбулаторыю. Пры невялікіх апёках апечанае месца паліваюць слабым растворам марганцоўкі або гарэлкай, адэкалонам, алеем і накладваюць павязку.

Толькі для закаханых




Пазнаемілася я з Анатолем ужо даўно. Ён працуе ў Беластоку, я жыву на вёсцы. Анатоль падабаецца мне, маім бацькам і знаёмым. Не падабаецца ўсім толькі тое, што ён не верыць у Бога. Нядаўна запрапанаваў ён, каб я выйшла за яго замуж. З гэтай просьбай звярнуўся і да маіх бацькоў.

І вось з гэтага часу пачалася бяда. Усе мае сваякі і бацькі забараняюць выходзіць замуж без шлюбу ў царкве. Кажуць, што за гэта пакарае мяне Бог. А бацька гаворыць, што выракнецца мяне, і нават пагражае кулаком. Я крыху веру ў Бога, але не гледзячы на тое, што Анатоль не веруючы, выйшла б за яго.

Што мне зрабіць, як паступіць?

Марыся
Сямяціцкі павет

Зразумела, выйсці за Анатоля замуж. І без царкоўнага шлюбу. Бацькі не маюць рацыі, страшачы цябе. Шлюб ў царкве — рэч не найважнейшая. Галоўнае, каб вы кахаліся і разумна па-новаму ўкладалі сваё супольнае жыццё. Калі так будзе, бацькі з цягам часу перастануць гневацца, пераканаўшыся, што іх погляды на неабходнасць вянчання ў царкве аджываюць свой век і не маюць вялікага значэння ў жыцці.

Сэрцайка

